Сёньня ў нумары:






# ПАГОНЯ

*Жыве Беларусь!*

*Грамадзка-палітычная газэта*

*№ 2 пятніца, 1 мая 1992 г.* *Кошт 1 руб.*


## ЗАЯВА

### Апазіцыі Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь

З таго моманту, калі ініцыятыўная група Усебеларускага рэфэрэндуму па пытаньні аб датэрміновых перавыбарах Вярхоўнага Савету пачала ажыцьцяўляць збор подпісаў, з вуснаў многіх афіцыйных асобаў Рэспублікі, а таксама ў шмат якіх сродках масавай інфармацыі была разгорнутая актыўная прапаганда ідэі рэарганізацыі Вярхоўнага Савету Беларусі і яго органаў як альтэрнатыва ідэі рэфэрэндуму.

Апазіцыя Беларускага Народнага Фронту, нязьменна прытрымліваючыся канцэпцый канструктыўнай працы дзеля паляпшэньня дзейнасьці найвышэйшага воргана дзяржаўнай улады ў любых варунках, падтрымала й на гэтым этапе ідэю яго рэарганізацыі. Было прапанавана некалькі грунтоўна распрацаваных варыянтаў такой рэарганізацыі: стварэньне пастаяннa дзейнага малога парляманту (Л. Баршчэўскі, Я. Новікаў), кардынальная зьмена працэдуры працы Вярхоўнага Савету (Ул. Новік), стварэньне пастаянных экспэртных групаў па галоўных накірунках дзяржаўнай палітыкі (П. Садоўскі). Падтрыманая была Апазіцыяй БНФ і канцэпцыя структурнага пераўтварэньня парляманту, распрацаваная народным дэпутатам Беларусі В. Даўгалёвым.

Але ўсе прапановы, якія хоць у нейкай ступені стасуюцца з паняцьцем «рэарганізацыя» — ад каго б яны ні зыходзілі — былі заблакаваныя намэнклятурнай бальшасьцю цяперашняга Вярхоўнага Савету. Цынічнай насьмешкаю зь ідэі яго рэарганізацыі выглядае прынятая з падачы дэпутацкага аб ʼяднаньня «Беларусь» (а яно, як вядома, складаецца амаль выключна з прадстаўнікоў былой кампартыйнай групы) прапанова аб стварэньні ўнутры Вярхоўнага Савету неканстытуцыйнага воргана — «Кансультатыўнага Савету Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь:», які ня мае ніякіх рэальных паўнамоцтваў і нават ніякай распрацаванай працэдуры работы.

Гэтаксама няўдалай аказалася спроба Старшыні Вярхоўнага Савету Беларусі сп. С. Шушкевіча правесьці хоць бы на ўзроўні зьнешніх перастановак крэслаў рэарганізацыю Прэзідыуму Вярхоўнага Савету.

Такім чынам, чарговы раз аб ʼектыўна пацьвердзілася слушнасьць курсу Апазіцыі Беларускага Народнага Фронту, іншых дэмакратычных сілаў Беларусі на правядзеньне рэфэрэндуму аб адстаўцы намэнклятурнага Вярхоўнага Савету. Лёс дзяржавы, будучыня нашых дзяцей ня могуць надалей знаходзіцца ў фатальнай залежнасьці ад людзей, якія ня дбаюць пра свой народ. Нашае выратаваньне — у выпрацоўцы й рэалізацыі праграмы сацыяльна-эканамічнага разьвіцьця Беларусі, у выніку чаго было б магчыма забясьпечыць людзкае жыцьцё нашым грамадзянам. А гэтая задача пад сілу толькі тым ворганам заканадаўчай і выканаўчай улады, якія маюць поўны давер свайго народу.

Мы заклікаем дэмакратычныя сілы Беларусі, усіх грамадзянаў, не абыякавых да будучыні нашае Бацькаўшчыны, дэмакратычным шляхам народнага галасаваньня скончыць зь непрабівальным засільлем кампартыйнай намэнклятуры й яе палітыкай, скіраванай выключна на задавальненьне ўласных інтарэсаў. Верым, што грамадзянскай сталасьці й мужнасьці нашых людзей, замучаных амаль сямідзесяцігадовым камуністычным экспэрымэнтам, на гэта ня будзе замала.

Народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь:

З. Пазьняк, Л. Баршчэўскі, Г. Сямдзянава, В. Голубеў, С. Навумчык, С. Антончык, У. Новік, С. Папкоў, Г. Грушавы, Л. Зданевіч, А. Трусаў, У. Заблоцкі, Ю. Беленькі, В. Малашка, В. Галубовіч, П. Холад, А. Шут, М. Крыжаноўскі, В. Какоўка, Я. Глушкевіч, А. Паруль, В. Даўгалёў, М. Маркевіч, А. Канцэвіч, М. Аксаміт, Л. Дзейка, В. Алампіяў, І. Пырх, І. Германчук, Б. Гюнтар, Л. Тарасенка.

### Гарадзкая фракцыя ў вабласным Савеце...

Адбылася нарада дэпутатаў вабласнога Савету, абраных у Гародні. Народныя абраньнікі падзяліліся думкамі і меркаваньнямі, як найлепш абараняць інтарэсы сваіх выбаршчыкаў у цяперашні нялёгкі час.

Дваццаць дзевяць дэпутатаў выказаліся за тое, каб стварыць дэпутацкую групу ў вабласным Савеце.

На гэтым пакуль і спыніліся, абраўшы каардынатарам дэпутата абласнога Савету, старшыню Гарадзенскага гарвыканкама Сямёна Мікалаевіча Домаша.

### Юныя музыкі зь Нямеччыны — госьці Гародні

З гімна «Мы, беларусы, з братняю Русьсю...» распачаў сваё выступленьне перад гарадзенцамі маладзёжны духавы аркестар зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія. Заля Палаца культуры «Юнацтва» была запоўненая толькі напалову, але гэта кампэнсавалася прыёмам слухачоў.

Аркестар Нямеччыны, у складзе якога юныя музыкі ва ўзросьце ад 14 да 25 гадоў, паказаў неблагую сыгранасьць і пазнаёміў гарадзенцаў зь цікавымі творамі нямецкіх, рускіх і італьянскіх кампазітараў.

М. Д.

### ВЯЛІКІ ДЗЯКУЙ!

Ужо другі год запар, дзякуючы каталіцкай царкве, надыходзіць да Гародні гуманітарная дапамога з Захаду. 25 красавіка ў Фарным касьцёле епіскап Аляксандр Кашкевіч перадаў галоўнаму ўрачу гарадзкой санітарна-эпідэміялягічнай станцыі Мікалаю Кендышу й доктарцы Яніне Шэрэль вельмі патрэбны апарат для вымярэньня радыяцыі — бэкэрэль-дазыметар фірмы «Бартхальд». Гэты апарат надышоў зь Нямеччыны дзякуючы нястомнаму клопату законьніцы сястры Францішкі, якую добра ведаюць у нашым горадзе за яе дабрачынную дзейнасьць.

Як паведаміў доктар Мікалай Кендыш, дазыметар «Бэртхальд» будзе выкарыстоўвацца для вымярэньня радыёактыўнага забруджваньня прадуктаў харчаваньня. Айчынныя дазыметры, якімі карысталіся дагэтуль, былі недакладныя й ненадзейныя.

Больш за 200 прыхаджанаў, якія прысутнічалі на цэрымоніі перадачы каштоўнага апарата ў Фарным касьцёле, памаліліся за здароўе дабрачынцаў, а таксама за нашае з вамі здароўе, паважаныя гарадзенцы.

А. РАМАШКЕВІЧ.

### На Беласточчыне больш няма беларускіх школаў

З пачатку 70-х гадоў на Беласточчыне амаль утрая зьменшылася кольскасць вучняў, якія вывучаюць беларускую мову. Як паведамляе мясцовая газэта «Кур ʼер Паранны», прычына гэтага ў распараджэньні Міністэрства асьветы Польшчы, якое абавязала бацькоў кожны год прадстаўляць заяву аб сваім жаданьні, каб іх дзеці навучаліся беларускай мове.

Цяпер на Беласточчыне няма ніводнай беларускай школы. Есьць толькі некалькі пачатковых, дзе мова буларусаў вывучаецца факультатыўна.

М. Д.



**Сэнсацыйную навіну данесла сваім чытачам газэта «Кур ´ер Падляскі»: агенты КДБ, нягледзячы на перамены ў СССР і ў Эўропе, залішне цікавяцца чужымі справамі. Шыльды зьмянілі, а праца — тая ж самая!**

**Як піша газэта, у рэдакцыю трапіў скрадзёны ці згублены дакумант, які належаў савецкаму маёру Івану Пятровічу С. Што ў ім! Цытуйма.**

# КДП ШПЯГУЕ Ў БЕЛАСТОКУ?



**Структура дывэрсіі і дэзынфармацыі.**

**Прынцып: кожны з членаў сеткі не павінен ведаць астатніх.**

**I. Сталіца.**

**КІРАЎНІКІ** — штатныя адзінкі Ўрада — 5-ь асобаў.

**Задачы кіраўнікоў.**

1. Інфарміраваць Цэнтар аб намерах і арыентацыі Ўрада. 2. Выконваць ва Ўрадзе загады Цэнтра.

3. Дэзарганізоўваць некарысныя пачынаньні Ўрада, а таксама накіроўваць дзеяньні Ўрада, згодна з указаньнямі Цэнтра.

**II. Пэрэфэрыя.**

А. **РЭЗЫДЭНТЫ** — штатныя адзінкі ў ваяводзтвах — па 3-ы асобы ў кожным ваяводзтве.

Кожны рэзыдэнт кіруе сваёй сеткаю функцыянэраў, якія ўладкаваныя ў найбольшых гарадох ваяводзтва.

**Задачы рэзыдэнтаў.**

1. Інфарміраваць Цэнтар аб эканамічных магчымасьцях ваяводзтваў і настроях грамадзтва.

2. Выконваць загады, дадзеныя Цэнтрам.

3. Праграміраваць арыентацыю грамадзтва і перадаваць праграмы функцыянэрам.

В. **ФУНКЦЫЯНЭРЫ** — у найбольшых гарадох ваяводзтва — да 10-і штатных адзінак, якія ўладкаваныя на буйных прадпрыемствах.

Кожны функцыянэр кіруе сваёй сеткай інфарматараў на прадпрыемствах.

**Задачы функцыянэраў.**

1. Інфарміраваць Рэзыдэнта аб магчымасьцях прадпрыемства і настроях грамадзтва.

2. Выконваць на прадпрыемствах загады Рэзыдэнта.

3. Праграміраваць у патрэбным накірунку грамадзкі настрой, выкарыстоўваючы інфарматараў.

С. **ІНФАРМАТАРЫ** — на буйных прадпрыемствах ваяводзтва да 3-х штатных адзінкаў на кожным прадпрыемстве. Інфарматар кіруе сеткаю пазаштатных асобаў, якія карыстаюцца даверам на асобных участках прадпрыемства.

**Задачы інфарматараў.**

1. Інфарміраваць функцыянэра аб прадукцыйнасьці прадпрыемства і грамадзкіх настроях.

2. Выконваць на прадпрыемстве загады функцыянэра.

3. Узьдзейнічаць цераз сваіх падначаленых на грамадзкі настрой участкаў так, каб кожны чалавек быў упэўнены, што адстойвае навязаныя яму думкі як свае незалежныя погляды.»

**В. А.**

# ЛЮДЗЬСКІЯ ПАКУТЫ ДАЛІ ПЛЁН: УЖО ВЯДОМА, ЯК БЫЦЬ ШЧАСЛІВЫМ

Шчасьце — гэта спосаб мысьленьня, а не маёмасьць. Такі просты з выгляду выказ зрабілі навукоўцы пасьля шматгадовых пошукаў «формулы шчасьця» ўсюды, дзе толькі жывуць людзі.

Матар ´ял, сабраны пад кіраўніцтвам прафэсара Робэрта Блондзіна ў 40 краінах сьвету, сьведчыць, што ані багацьце, ані прыгажосьць, ані слава ня робяць чалавека шчасьлівым. «Мы намагаліся адшукаць унівэрсальную формулу чалавечага шчасьця,—піша прафэсар.— Зьбіралі тыповыя рысы людзей шчасьлівых, нягледзячы на асяродзьдзе, зь якога яны паходзяць. І ўбачылі, што трывалае шчасьце даволі рэдка мае сувязь зь зьнешнімі варункамі жыцьця чалавека.

Яно залежыць ад кандыцыі унутранай».

Каманда дасьледчыкаў апрацавала сабраны матэр ´ял і зрабіла некалькі пэўных выказаў.

Шчасьлівыя людзі лёгка прыстасоўваюцца да новых умоў. Калі нешта перашкаджае іхнім плянам — мяняюць пляны. Ва ўсім шукаюць добрыя якасьці. Нават, калі іх пакіне любімы чалавек.

Шчасьлівыя людзі аддаюць сябе цалкам справе, якой займаюцца.

Шчасьлівыя людзі не завышаюць свае таленты і здольнасьці. Яны лёгка прызнаюць свае памылкі, зносяць жарты на свой адрас, умеюць нават з самых сябе жартаваць.

Шчасьлівыя людзі дзейнічаюць самаадвольна. Шмат чаго робяць пад уплывам імпульсу, настрою моманта. Не намагаюцца жыць згодна з раскладам. Яны адкрытыя новым ідэям, плянам, сяброўству.

Шчасьлівыя людзі падтрымліваюць раўнавагу паміж розумам і сэрцам. Умеюць разважаць лёгічна, абапірацца на факты. Разам з тым лічацца, як з фактамі, з пачуцьцямі іншых і сваімі ўласнымі.

Шчасьлівыя людзі адчуваюць сябе часткай агульнага цэлага, чым зьяўляецца грамадства, чалавецтва, вялікая сям ´я жывых істот на зямлі. Усё жывое ім блізкае, хочуць жыць, любяць жыцьцё, але не баяцца сьмерці.

Славуты амэрыканскі псыхолёг Фрэдрык Коніг пагадзіўся з выказамі дасьледчыкаў шчасьця. «Яны блізка нашым назіраньням,— піша ён.— Людзкое шчасьце залежыць ад пункту гледжаньня».

Але ці можна быць шчасьлівым, калі грошай не хапае да першага, калі няма за што купіць дзіцяці цукерку? Ані Блондзін, ані Коніг на гэтую тэму ня выказаліся. Напэўна гэткія праблемы не заслугоўваюць увагі філёзафаў.

**(Паводле матар ´ялу замежнага друку).**

**Ці паявяцца ў відэасалёнах свае фільмы?**

Замежныя фільмы жахаў, вэстэрны, баявікі — такі рэпэртуар прапануюць гледачу відэасалёны вобласьці. Вядома, які выхаваўчы эфэкт маюць такія стужкі, наколькі разбуральна ўзьдзейнічаюць па псыхіку людзей.

А што супрацьпаставіць гэтаму? Трэба здымаць сваё кіно. І вось першыя крокі робіць рэспубліканскае творчае аб ´яднаньне «Беларускі відэацэнтар». Яно стварыла ўжо некалькі ўласных відэастужак — пакуль не мастацкіх, а дакументальных.

Сярод іх відэафільм «Хроніка Мірскага замка» рэжысёра Міхася Мялешкі. Ён распавядае аб выдатным помніку дойлідства, які знаходзіцца на Гарадзеншчыне. Цяпер замак у Міры рэстаўруюць, і ён хутка стане важным культурным цэнтрам, будзе ўключаны ў турыстычныя маршруты.

**М. Д.**

> **«Цяпер можна сказаць, што ашуканства становіцца ледзь не галоўнай вызначальнай рысаю нашага часу, пры чым яно мае мейсца ня толькі на базары, але і сярод арганізацыяў і фірмаў больш высокага рангу, а ў апошні час мы ўсё часьцей назіраем і несумленнасьць урада».**

# ЯК ВІЦЯ М. ВЫЙГРАЎ «ЖЫГУЛІ»

Бадай, найбольшым попытам сярод розных латарэй карыстаецца «Спрынт». Напэўна, кожны з нас аднойчы быў сьведкам падобнага: дзе-небудзь на вуліцы ці ў кіёску пачынаецца продаж білетаў, і тут жа зьбіраецца натоўп. Чуваць воклічы: «Зноў не пашанцавала!», і ляцяць на тратуар паперкі з надпісам «Бяз выйграша». Ну, а калі трапіцца шчасьлівы білецік?

Гісторыя гэтая пачалася 16 жніўня мінулага году. Адзін гарадзенскі хлопчык (дадзім яму імя Віця М.) купіў білет латэрэі «Спрынт». Білет аказаўся нязвычайна шчасьлівы: у ім значыўся выйгрыш — «Жыгулі 2105». Хлопчыка тут жа акружыў натоўп цікаўных і нейкіх цёмных асобаў. Адна добрая кабета, гледзячы, што справа можа скончыцца дрэнна, узяла хлопчыка за руку й разам зь ім патэлефанавала яму дамоў. Хутка прыехалі бацькі хлопчыка, і на гэтым этапе ўсё скончылася добра. Але радавацца яшчэ было рана.

Білет быў здадзены ў Цэнтральную ашчадную касу для экспэртызы. У пачатку лістапада білет «прыехаў» у Маскву, у аддзел латэрэі «Спрынт», дзе павінны былі пацьвердзіць яго сапраўднасьць і затым выслаць выйгрыш. Сям ´я М. тым часам чакала з прыемнасьцю «чатырохкалёсную мару». Можна ўявіць сабе, як ашаломленыя былі М., калі ім паведамілі, што за выйгрыш трэба... даплаціць 100 000 рублёў. М. рашылі зьвярнуцца да гэнэральнага дырэктара «Спрынту», але той знаходзіўся ў адпачынку. Начальнік жа аддзела «Спрынт» Кароль Натальля Васільеўна адказала, што выйгрышны фонд увесь вычарпаны, і таму нават немагчыма замяніць выйгрыш грашыма (вядома, па кошту 1991 г.). Таксама яна паведаміла, што аддзел «Спрынт» зьвяртаўся да ўрада з просьбай аб выдзяленьні фондаў на выйгрышы, але замест адказу — маўчаньне. М. пагразілі зьвярнуцца ў суд, на што Натальля Васільеўна адказала: «За гэта мы вам толькі дзякуй скажам».

На ўсякі выпадак М. зьвярнуліся на аўтазавод у Тальяці, дзе ім адказалі, што «Спрынту» яны аўтамабіляў не пастаўляюць, таму што не заключана дамова!

Канца гэтае гісторыі пакуль што нябачна. Хочацца ад душы пажадаць М. атрымаць свой выйгрыш, але спадзяваньняў на гэта вельмі мала. У аддзеле «Спрынт» ім толькі параілі напісаць заяву, якая будзе разгледжана, калі зьявяцца фонды.

На прыкладзе ліхіх прыгодаў гэтай сям ´і яшчэ раз бачна, што ў нашай былой дзяржаве няма нічога надзейнага. Калісьці йснавала прымаўка: «Надзейна, як аблігацыя ўнутранага займу». Агульнавядома, што здарылася з гэтымі аблігацыямі зараз: увесь тыраж замарожаны на нявызначаны тэрмін, і змучаныя работнікі ашчадбанкаў нудна паўтараюць: «Зьвяртайцеся да ўрада». Тое самае й з «Спрынтам». Цяпер можна сказаць, што ашуканства становіцца ледзь не галоўнай вызначальнай рысою нашага часу, пры чым яно мае мейсца ня толькі на базары, але й сярод арганізацыяў і фірмаў больш высокага рангу, а ў апошні час мы ўсё часьцей назіраем і нясумленнасьць урада. Што ж тады гаварыць пра «Спрынт»? Але гэтую латэрэю працягваюць актыўна рэклямаваць і прадаваць білеты. Выходзіць, што не разлічыўшыся са старымі даўгамі, «Спрынт» рашыў узваліць на сябе новыя. Напэўна, гнеў невялікае колькасьці ўладальнікаў «выйгрышных» білетаў яго зусім не палохае.

**Алена ПРУДНІКАВА, г. Гародня.**



У Парэччы ў санаторыі «Сузор ´е» прайшоў абласны фэстываль дзяцей-інвалідаў. Тры дні хлопчыкі й дзяўчынкі разам з сваімі бацькамі жылі ў раскошных памяшканьнях санаторыя — адпачывалі, займаліся ў розных гуртках, удзельнічалі ў конкурсах, а таксама пазнаёміліся з выставай дзіцячых малюнкаў і сувеніраў, паглядзелі прадстаўленьні тэатра лялькаў.

Нягледзячы на халоднае надвор ´е, свята ўсё ж такі удалося, арганізатары рабілі ўсё, каб дзеці забыліся на сваю немач, набылі новых сяброў.

**Тэкст і фота У. БАБЕНКІ.**

## ЗАМАХНУЛІСЯ НА ВЫДАВЕЦТВА

У Наваполацку зьявілася новае выданьне, якое так і называецца: «Новая газэта». Першы нумар ужо выйшаў з друку. Працуюць у газэце пісьменікі Вінцэсь Мудроў і Ірына Жарнасек. Акрамя газэты, у Наваполацку стварылі Беларускі культурны цэнтар. Мэрыя дала памяшканьне й адну штатную адзінку. У сувязі з гэтым часьцей будуць праходзіць розныя культурныя імпрэзы ў горадзе. На пэрспэктыву — у вадным з пакояў цэнтра разьмесьціца выдавецтва «Полацкае ляда».

А месяцы чатыры таму, дзякуючы намаганьням Алеся Козіка, у Полацку выйшаў камплект фотапаштовак «Маладая беларуская паэзія», аматары вершаванага слова атрымалі каштоўны падарунак — партрэты Славаміра Адамовіча, Алеся Аркуша, Ігара Бабкова, Павала Бурдыкі, Адама Глёбуса, Юры Гумянюка, Алега Мінкіна, Юрася Пацюпы, Тацяны Сапач, Людкі Сільновай, Сяржука Сокалава-Воюша й Анатоля Сыса. На асобнай картачцы надрукаваныя кароценькія зьвесткі пра паэтаў. Шкада, што наклад камплекту фотапаштоўкаў мізэрны — усяго 200 асобнікаў, і распаўсюджваецца ён пераважна ў літаратурным асяродзьдзі.

**Лючыян САРОКА,**
**г. Наваполацк.**

## Робяцца захады вярнуць гораду яго гістарычную назву

— Ці лічыце вы мэтазгодным вярнуцца да гістарычнай назвы горада Наваградак? — Такое пытаньне да жыхароў Навагрудчыны прагучала са старонак раённай газэты «Новае жыцьцё».

Рэдакцыя атрымала некалькі дзесяткаў лістоў, у якіх людзі выказалі свае адносіны да гэтай праблемы. У 69 лістох выказана перакананьне, што неабходна вярнуць гораду яго гістарычную назву — Наваградак. На думку людзей, яна будзе нагадваць пра слаўную гісторыю горада, які быў першай сталіцай старажытнай беларускай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага, буйным культурным і рэлігійным цэнтрам Эўропы.

А вось супраць таго, каб вяртацца да гістарычных каранёў, выказаліся аўтары 16 лістоў.

*Сям ´я ў анфас і поверць*

## БАЦЬКОЎ НЕ ВЫБІРАЮЦЬ

Аднапакаёвая кватэра, у якой мясьціліся маці з айчымам, малодшая сястрычка і ён, нагадвала піўнуху: разьбітыя шыбы, брудны посуд, зьнявечаныя дзьверы... Алесь нярэдка не начаваў тут, і бацькі ня ведалі, дзе ён, нават ня цікавіліся гэтым.

Школу Алесь кінуў сам і паехаў у вёску да бабы зь дзедам, так што й бацькоў, лічы, таксама кінуў.

Сястра замалая, каб вырашаць свой лёс, але й яна цягнецца да брата. Зь ім лепш, чым слухаць брыдкую лаянку бацькі-алкаголіка й маці, якая таксама не адмаўляецца ад «вясёлага» зельля. З братам лепш, чым туліцца ў суседзяў, калі бацька выжане з хаты. Але гэта горш, чым мець сваё, дзіцячае мейсца ў сям ´і.

Уяўляю, як ставяцца Алесь і Ала да слоў пра павагу да бацькоў. Што могуць выклікаць ў дзіцячых сэрцах? Сум і зайздрасьць да сяброў, аднагодкаў, у каторых сем ´і добрыя. Гэта напэўна. Ці пашэнціць ім і гэтыя пякучыя пачуцьці зь цягам часу ня зробяць зь дзяцей цынікаў, людзей, якія таксама возьмуцца заліваць сваё гора тым жа зельлем і прадоўжаць дынастыю?

Гісторыя, якую я распавядаю, не назваўшы прозьвішчаў дзеючых асобаў, каб перадаць найвялікшую несправядлівасьць на сьвеце — скрадзёнае дзяцінства.

Хутка сталася так, што справа (ці лёс Алеся й Алы) трапілі ў суд. Бабуля ды дзядуля звярнуліся з просьбаю, каб ім аддалі дзяцей, выхаваньнем якіх яны адны практычна займаюцца. Суд ня ўзяўся задаволіць заяву вяскоўцаў, «пашпартныя» бацькі бажыліся, што ўсё пераменіцца. І добра, калі так будзе. Але ці будзе?

Здарылася так, што амаль аднachасова з гэтай гісторыяй аўтар артыкула пазнаёмілася з другой, аналагічнай гісторыяй, якую можна разглядаць, як пачатак першай і як яе працяг

... Што й казаць, нямала дзяўчат у нас, якія, пымыліўшыся ў сваім абранніку, нарадзілі дзіця й сталі маці-адзіночкамі. Здараецца, як кажуць. Але горка, калі за тую «памылку» вымушана расплочвацца немаўля, як гэта адбылося ў Сьвятланы В.

Маленькаму Ігарку, праўда, пашэнціла: Сьвятлана жыве з маці й бабуляй, гэтыя жанчыны і ўзяліся даглядаць хлопчыка. Зрэшты, ня толькі хлопчыка, яны вымушаны трымаць на сваіх шыях дачку і ўнучку, бо Сьвета нідзе не працуе.

Вось што раскажа суседка: «Света часта прыводзіць дахаты незнаёмых мужчынаў. Аднойчы пачула, што на лесьвічнай пляцоўцы нехта плача. Выйшла паглядзець, а гэта бабуля Сьветы, якую ўнучка выгнала з хаты, прыехаўшы з кавалерам».

— Сьвета была добрай дзяўчынкай,— гаворыць бабуля.— Але вельмі зьмянілася, калі пайшла вучыцца ў ПТВ. Пачала выпіваць, не начавала, а потым і дзіця нарадзілася. Ды хай жаж глядзела б за ім, чаго ў жыцьці ня бывае! Але дзе там...

Ня мае больш сілы маўчаць і маці Сьветы.

— Не хоча працаваць,— гаворыць яна,— а грошы, што атрымлівае на сына, прагульвае, нават рэчы з кватэры выносіць і продае...

Зноў суд. Пытаньне тое ж самае: пазбаўленьне мацярынства. І тут суд не стаў на бок фактычных выхавацеляў дзіцяці, бо Сьвета абяцала «адумацца». Што ж, магчыма суд мае рацыю. Якія б не былі бацькі, дзеці да іх усё ж цягнуцца. Прыгадваю размову зь дзяўчатамі, якія выхоўваліся ў дзіцячым доме, потым у школе-інтэрнаце. Ужо дарослыя, яны не страцілі надзею сустрэць бацькоў. Гэта іх найвялікшае жаданьне, нягледзячы на тое, што падкавае розум: «Бацькі мяне кінулі!»

**Т. КУДРАШОВА,**
**Г. Ліда.**

# ЧАМУ Я «ЗА» ДАТЭРМІНОВЫЯ ВЫБАРЫ

Напярэдадні першага, яшчэ паўлаўскага цэнавага скачка кіруючыя работнікі Гарадзенскага раёна «налажылі лапу» на 40% рынкавага фонду тавараў. (Нагадаю: насельніцтва раёна складае 71 тысячу чалавек). Бессаромнасьць «народных заступнікаў» так аглушала мяне, што я ня даў веры ўласным вушам і зьвярнуўся да начальніка дзяржгандальінспэкцыі па Гародзенскай вобласьці Тарасевіча з пытаньнем: «Ці магло так стацца?»

— Так,— адказаў Аляксандр Іванавіч.— Ёсьць адпаведныя дакумэнты.

Чаму я сёньня спомніў старое й ці ёсьць у тым патрэба? Ёсьць! У апошні час у мяне склалася ўражаньне, што ў нас вельмі кароткая памяць. Падобна, мы гатовыя паверыць, што раней пры райкамах, гаркамах ды абкамах была справядлівасьць і што ў сённяшніх бедах вінаватыя дэмакраты ці хто там яшчэ, толькі ня тыя, хто кіраваў і працягвае гэта рабіць у так званых новых умовах.

Тады я накіраваў у «інстанцыі» дзьве заявы, адну зь іх у абкам КПБ. Я пісаў, што злоўжываньні чыноўнікаў не прайшлі цішком, што людзі ўсё ведаюць. Я пісаў, што менавіта абкам павінен разабрацца ў гэтай справе, каб паказаць, што ён на баку народа й не выгароджвае тых кіраўнікоў, якія ганьбяць партыю. Я пісаў нешта ўзьнёслае пра аўтарытэт абкама, партыі. Унёс таксама й прапанову: правесьці ў Скідэлі мітынг, каб людзі, шараговыя камуністы выказаліся ды вырашылі далейшы лёс скампрамітаваных кіраўнікоў.

Ніякай рэакцыі з боку абкама не было, а 22 жніўня загадчык аргаддзела сказаў мне, што ў такой складанай сытуацыі не да мітынгаў. Праўда, Яўстафій Рыгоравіч Станчыц паабяцаў, што бюро абкама абавязкова разгледзіць пытаньне аб злоўжываньнях кіруючых работнікаў раёна. На другі дзень дзейнасьць КПСС была прыпынена, «народныя заступнікі» засталіся кожны на сваім мейсцы. Пагадзіцца з гэтым было немагчыма.

Разважыўшы, напрыканцы верасьня я напісаў разам зь юрыстамі Скідальскага камбіната будаўнічых матар ´ялаў М. А. Сяўко другую заяву, на гэты раз па лініі Саветаў — у аблвыканкаме. І ў гэтай заяве было многа шчырых слоў і пачуцьцяў, абурэньня ды наіўнай веры ў ідэалы. І тут было сказана пра неабходнасьць правядзеньня мітынгу і пра тое, што аблвыканкам павінен станоўча выказацца, на чым ён баку — выбаршчыкаў ці «слугаў».

І гэтая заява папала, як камень у ваду. Можна падумаць, што чыноўнікі аблвыканкама ня ведаюць 47-ы артыкул Канстытуцыі. Зрэшты, маўчаньне — таксама адказ.

Каб усё ж такі неяк разварушыць улады, давялося зьвярнуцца ў абласную пракуратуру. У лютым прыйшоў адказ, зь якога я даведаўся, што аніякіх злоўжываньняў навогул ня было. А што было, тое вадою сплыло. Малайчына намесьнік старшыні камітэта па прамысловасьці, гандлю й паслугах, які паставіў свой подпіс пад адказам!

Між тым злоўжываньні працягваюцца й ўтойваць іх ужо нельга. Прывяду прыклад. У артукуле эканаміста планавай камісіі райвыканкама Л. Прасвірынай «Самы востры дэфіцыт» («Сельская новь», № 104 ад 03.10.91 г.) ёсьць дадзеныя аб продажы легкавікоў жыхарам раёна асобна па гарадзкому, пасялковаму й сельскіх Саветах. За два гады й 9 месяцаў мінулага года іх было прададзена ў сярэднім 3,6 на тысячу жыхароў. Ёсьць таксама дадзеныя па раённых арганізацыях, але ўжо, зразумела, без сярэдняй лічбы (на тысячу чалавек), бо тут адразу было б відаць: дзе густа, а дзе пуста. І ўсё ж такі адна лічба ёсьць: усяго прададзена машынаў работнікам раённага зьвяна — 67. Возьмем «Сельскую новь» за 31 жніўня і ў артыкуле В. Бірукова знойдзем другую патрэбную нам лічбу: у Гародні пражывае 3,5 тысячы кіруючых работнікаў раёна. Падзелім адну лічбу на другую й атрымаем: на тысячу кіруючых работнікаў прыпадае 19,1 машыны, што ў 5,5 раза болей, чым у сярэднім па раёну. Камэнтар тут не патрэбны.

Вось чаму я й шмат хто яшчэ ў раёне выказваюцца за правядзеньне датэрміновых выбараў дэпутатаў Саветаў усіх узроўняў. Пакуль грамадзтва не пазбавіцца чыноўнікаў-прыхвацізатараў, ня відаць нам лепшай долі.




**І. БАРЫСАЎ,**
**г. Скідаль.**



*Уільям ШЭКСПІР*

## САНЕТ 66

Стамлёны ўсім прашу спатолі сьмерць,
Бо скрозь Нішто пануе над зямлёю,
І годнасьць змушана ў рызьзі гібець,
І вера перамешана з гразёю,
І гонар залачоны на шчыце,
І цнота, ў дзень абсьмеяная, плача,
І сілу немач хітрая гняце,
І дасканальнасьць зьнікла да астачы,
І ўлады безьязыкія пяюць,
І доктар Дур над майстрам прыганяты,
І прасьцяком праўдзівага завуць,
І зло цікуе за дабром зацята.
Стамлёны ўсім я б ціха адышоў,
Але ня кінуць тут маю любоў.

**Пераклад Ю. ПАЦЮПЫ.**

# МАЙСТРОЎНЯ

*Юры ГУМЯНЮК*

### ПАВЕРХНЯ

Паверхня, што вастрэйшая за нож,
ніколі не народзіцца нанова.
Яна, нібыта скептык Казанова,
а мо і забаронены чарцёж.

Яе не зьнішчыць нат кіслотны дождж,
і ня стрымае папярэдняя размова.
Ты хоць Адама на ўсіх грэшнікаў памнож,—
паверхня зьнівелюе знак і слова.

Што ні кажы — усе ведаюць яе:
паэты п 'яныя, старыя камуністы;
якая розьніца: ці ёсьць настрой, ці не,—
галоўнае, каб быць заўсёды чыстым!

Тады яна і чарачку нальле,
ажно ў вачах зазьзяюць аметысты.

### ПСЫХАДЭЛІЧНАЕ МАСТАЦТВА

Сьвет скаціўся да суцэльнага вар 'яцтва,
быццам п 'яны небарака ля вакзала.
Падсьвядомасьць мне таропка загадала:
«Палюбі псыхадэлічнае мастацтва!»

Я глядзеў на рэчаісныя фарманты,
не зважаючы на знешнія прыкметы.
Прычапляліся агідныя кабеты,
разам зь імі недарэчныя мутанты.

І пыталіся: «Чаму ж ты не вясёлы?
Што за позірк стомлена-пануры?»
Падалося, бы тамтэйшыя прафуры
павылазілі з д 'ябэльскага касьцёла.

А мяне ўвесь час цікавіла праблема,
Як бяз пэндзля выйсьці па-за межы,
паспрачацца з аграмаднай тэлевежай,
папаліць усе на сьвеце тэарэмы.

Толькі сьвет вар 'яцкі чыніць перашкоды,
абуджае ваяроў АЛЬТЭРНАТЫВЫ.
Кожны пяты нараджаецца шчасьлівы,
бо заглохлі звышмагутныя заводы.

Вось і хутка запануе панібрацтва,
а паэты атрымаюць ганарары
і асушаць перапоўненыя чары
на карысьць псыхадэлічнага мастацтва.

ДЫЯЛЕГІ

# АЛЕСЬ АРКУШ:
## Я не люблю быць у гурце...

**— Алесь, ты пішаш вершы. Чым зьяўляецца гэты занятак для цябе?**

— Самая вялікая бяда беларускай паэзіі, ды й наогул савецкай,— што яна зрабілася працай дзеля хлеба, сродкам фізычнага існаваньня. Калі ў мяне атрымліваецца добры верш, я нібыта зрабіў нейкае адкрыцьцё, хоць гэта і банальна гучыць — стаў больш духоўна багатым, глыбей пачаў разумець і адчуваць навакольны сьвет. Гэткі працэс робіцца неабходным, як ежа і паветра.

**— Твая паэзія няпростая, ня кожны пазнае ў ёй навакольны сьвет.**

— У мяне сваю стаўленьне да паэзіі і наогул да літаратуры. Літаратура не павінна быць дакладным адлюстраваньнем жыцьця. Інакш яна робіцца проста гістарычным дакумэнтам, сьлепкам з пасьмяротнай маскі мінулага часу. Няхай сабе нават і вельмі таленавітым. Раман «Майстар і Маргарыта» Булгакава пісаўся на пачатку стагодзьдзя, а актуальным будзе і ў XXI, і XXII стагодзьдзях. Перагляд духоўных каштоўнасьцяў адбываецца кожнае дзесяцігодзьдзе. Яшчэ складаней з паэзіяй. Для мяне яна знаходзіцца паміж музыкай і філёзофіяй. Калі паэт садзіцца пісаць і ведае, пра што ён будзе пісаць,— прадукт такога вершаскладаньня я не ўспрымаю. У мяне няма вершаў патрыятычных, адраджэнскіх, на злобу дня.

**— Ты аўтар дзяржаўнавыдавецкай кнігі паэзіі «Вяртаньне», выдавецтва «Мастацкая літаратура» прыняла твой новы зборнік паэзіі. Чаму ты заняўся «самвыдацкай» дзейнасцю?**

— Ты маеш на ўвазе кніжачку «Тайніца», што я разам з Павалам Бурдыкам выдаў у Полацку за свой кошт? Гэта вялікая размова. Самае галоўнае — мы спрабуем адрадзіць старажытны культурны цэнтар — горад Полацак. А без выдавецкай справы, сваёй, мясцовай, абыйсьціся немагчыма. З гэтае ж прычыны з дапамогай выдавецкага таварыства «Свабода» я са сваімі сябрамі спрабую выдаваць літаратурны альманах «Ксэракс Беларускі». Для ўсяго гэтага патрэбны значныя грашовыя сродкі. Таму наша выдавецкая справа марудна вырашаецца.

**— Відаць, патрэбныя спонсары?**

— Безумоўна, патрэбныя. Але дзе іх знойдзеш?

**— Давай вернемся да паэзіі. Як успрымаюць твой занятак твае блізкія — жонка, бацькі, сваякі?**

— Мая жонка таксама чалавек мастацтва, яна габэленшчыца, таму на ўзьметку духоўнага і побытавага ў нас непаразуменьняў ня бывае. Есьць жа некаторыя сваякі, якія ўспрымаюць мяне як дзівака. Але я ня крыўдую.

**— Каму ты любіш чытаць свае новыя вершы?**

— Нікому, я не аматар чытаць свае вершы. Чытаю толькі на сустрэчах з чытачамі.

**— А жонцы?**

— Яна чытае з паперы.

**— А ці бываюць у вас з жонкай, маецца на ўвазе ў творчасьці, духоўныя пазычаньні адзін у ваднаго?**

— Бывае. Напрыклад, бальшасьць габэленаў Таццяны названы радкамі з маіх вершаў. Напэўна, яны яе падштурхнулі, надалі творчы імпульс.

**— Ці прысьвячаеш ты каму свае вершы?**

— Прысьвячаю: сябрам (галоўным чынам маладым паэтам), духоўна блізкім мне людзям, жонцы.

**— У літаратуры немагчыма быць аднаму. Зь кім ты найбольш кантактуеш, каго паважаеш?**

— Я не люблю быць у гурце, праўда, у свой час быў у «Тутэйшых», але гэта зусім зь іншых, хутчэй палітычных прычынаў. Аднак сяброў у мяне шмат: паэт, які жыве ў Вільні, Алег Мінкін, крытык Сяргей Кавалёў, маладыя літаратары Ігар Сідарук Юры Гумянюк й іншыя. Бязумоўна, сябрую зь землякамі: Уладзімерам Арловым, Лявонам Баршчэўскім, Вінцэсем Мудровым, Павалам Бурдыкам.

**— Ты вылучаўся ў дэпутаты, а як ставішся да палітыкі?**

— Палітыкай займацца не хачу. Хаця падтрымліваю, чым магу, ўсе арганізацыі й партыі, якія сур 'ёзна займаюцца пытаньнямі адраджэньня Беларусі.

**— Дзякуй за размову. Творчых посьпехаў табе!**

**Гутарыў
Андрэй МАРЦІНКЕВІЧ.**

*Ігар СІДАРУК*

# ТЫ СЬМЯЕШСЯ, А ЯМУ ЖЫЦЬ...

**Апавяданьне**

Мужык з ранку п 'яны. Ляжыць на канапе. Спружыны яе рыпяць ад кожнага руху.

Паварочваецца на другі бок мужык з тупой, упартай мэтадычнасьцю. Пры гэтым моташна і зло стогне:

— Хрэнова. Галава баліць. Захварэў я... Хрэнова. Галава баліць. Захварэў я...

Я сяджу ў фатэлі, майструю камізэльку. Спрабую ўспомніць імя свайго мужыка. Аднак гэта ня мае значэньня.

Ен стогне, я вяжу, набліжаецца поўдзень. Хутка павінна прыехаць мая сяброўка.

А адзінаццатай зазірае суседка. Падазрона аглядае пакой.

— Ты што гэта робіш?

— Камізэльку вяжу.

— Якую камізэльку?

— Хіба ты сьляпая?

Суседка чэша пад пахамі:

— Ці ёсьць у вас запаліць?

Адкідваю вязаньне. Варашу смецьце на падлозе. Знаходжу пусты цыгарэтны пачак.

— Няма.

— А гэта што? — раптам ўскрывае суседка. Кідаецца да канапы, дзе стогне п 'яны мужык.

Яе пальцы шныраюць у прарэсе ягоных штаноў і выцягваюць на белы сьвет скамечаны пачак «Беламору».

— Вось дык схаваў! — рагоча яна ўзрадавана і дастае папіросу.

Запалкі шукае чамусьці ў мяне пад спадніцаю. Іншы раз прамаўчала б. Але гэта мая любімая, у белыя гарохі.

Хапаю суседку за косы і моцна б 'ю тварам аб сьценку. Яна зьдзіўлена глядзіць на мяне. Выходзіць, ціха прычыняючы за сабою дзьверы...

Выціраю рукі аб хвартух.

У павуту над тэлевізарам трапляе муха. Павук кранае яе лапамі. Павук нейкі дохлы. Муха гудзіць яму нешта абразлівае ў адказ.

Выходжу на кухню. Смажу яешню. Мужык есьці ня можа, яго пачынае ванітаваць, я зьядаю яешню сама.

Сяброўка прыязджае а другой гадзіне дня. Уваходзіць у пакой, расчыняе валізку.

З-пад кучы бялізны выскоквае маленькі сабачка. Правальваецца ў шчыліну ў падлозе.

Сяброўка хапае яго за заднюю лапу, цягне да сябе. Лапа адрываецца. Сабачка скуголіць і падыхае.

— Ну і хрэн зь ім! — гаворыць мужык, сеўшы.

Сяброўка ўтапурваецца ў ягоныя валасатыя ногі.

— Пахаваем на балконе.

— Ен што, п 'яны ў цябе?

— Які п 'яны! — бурчыць мужык.— Захварэў.

Сяброўка хутка распранаецца, нырае да яго пад коўдру. Я саджуся за камізэльку. У іх нічога не атрымліваецца.

У ванным пакоі цурчыць вада. Мыла там няма... Сяброўка мыецца сваім. Не дамыўшыся, засынае.

Вада льецца цераз край. Залівае кватэру. Мужык акунае ў яе галаву і рагоча.

Сяброўка прачынаецца. Забываецца на адзеньне, падыходзіць да вакна.

— Глядзі,— кажа яна,— якія вялікія вушы ў таго мужчыны!

Выглядваю на вуліцу. На лаўцы сядзіць чалавек. Ягоныя вушы дакранаюца яму да плечаў.

— Сапраўды, вялікія. Але ты сьмяешся, а яму з такімі жыць. Хіба гэта не бесчалавечна?

Сяброўка змаўкае. Зьбірае сваю валізку. З трэскам грукае дзьвярыма. Апранацца яна так і ня стала.

Я прутком прабіваю сабе руку. Доўга назіраю, як капае на кінутую бялізну кроў.

Мужык плюе ў павуту. Спрабуе сьлінаю зьбіць павука.

У расчыненыя дзьверы ўваходзіць чалавек зь вялізарнымі вушыма.

